«НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»

Адам МАЛЬДЗІС

# НАША АПОРА І НАШЫ ІДЭАЛЫ

**Найперш, безумоўна, абароны сёння патрабуе мова беларуская, мова карэннага этнасу нашай дзяржавы, які складае выразную большасць усяго яе насельніцтва, мова, якая не так даўно атрымала статус дзяржаўнай. І раптам за які год яна гэты статус зноў згубіла. Не, дэ-юрэ яна, вядома, застаецца дзяржаўнай. Але дэ-факта перастала быць такой. Бо дзяржаўная двухмоўнасць сёння толькі дэкларуецца. А фактычна дзяржаўнай зноў стала толькі руская мова. Яна амаль непадзельна гучыць у парламенце, у дзяржаўных установах, у дзелавой сферы. І мы самі чуем, і нашы зарубежныя госці канстатуюць, што беларуская мова перастала ўжывацца на вуліцах, што беларускія выданні знікаюць з кнігарняў і газетных кіёскаў, або ад іх застаюцца толькі назвы.**

І ўсё ж крызіс беларускай мовы — толькі частка больш агульнага моўнага крызісу ў Беларусі. Паслухайце, як размаўляюць у нас на пасяджэннях і ў кулуарах, на вуліцах і ў магазінах, як вечарамі і начамі галёкае пад вокнамі нашых дамоў моладзь. Пэўна ж, гэта не беларуская мова. Але і не руская. Часцей за ўсё нашы суграмадзяне толькі цешаць сябе думкай, нібыта яны добра, літаратурна выказваюць свае думкі па-руску, на вялікай і прыгожай мове Пушкіна і Дастаеўскага. На самай справе гавораць яны ў большай або меншай ступені на «трасянцы» — лексічнай, фанетычнай, сінтаксічнай. Прытым як жа часта ледзь не кожнае рускае слова перасыпаецца матам — нават у жанчын, нават у дзяўчатак.

Моўная культура (і масавая, і элітарная) дэградзіруе ў нас ледзь не ў геаметрычнай прагрэсіі — куды хутчэй, чым у нашых суседзяў. Прытым гэта датычыцца не толькі беларускай і рускай моў, але і польскай (выехаўшы за граніцу, нашы «рыначныя палякі» забаўляюць пакупнікоў неверагодным жаргонам), яўрэйская (ідыш ужо становіцца экзотыкай), а прыгадваюцца ж часы, калі беларусы добра ведалі мовы сваіх спрадвечных суседзяў, а тыя адказвалі ўзаемнасцю, калі дзяржаўнымі мовамі Беларусі былі не дзве, а чатыры — беларуская, руская, польская, яўрэйская і ніводная з іх не перашкаджала іншай, бо кожная была фактычна дзяржаўнай, бо імі карысталіся найпершыя асобы краіны. Мелі тады (у 20-х гадах) умовы для развіцця ў Беларусі літоўская, латышская мовы. Аднак потым, пераважна пад націскам рэпрэсій, сапраўднае шматмоўе стала падмяняцца так званым білінгвізмам, а па сутнасці «трасянкай» (хаця ў ёй некаторыя аптымісты таксама бачаць праяву беларускасці) — у той час як увесь свет імкнецца да палінгвізму.

Давайце, аднак, задумаемся, а ў чым жа прычына сённяшняга моўнага крызісу? Чаму «трасяначнаму» беларусу так цяжка авалодаць суседняй мовай — рускай, польскай, літоўскай? На лагічны адказ на гэтыя пытанні навяла мяне праца польскай даследчыцы Крыстыны Урублеўскай-Паўляк «Двухмоўнасць», змешчаная ў кнізе «Міжкультурная камунікацыя» (Варшава, 1995). Аказваецца, у Заходняй Еўропе, найперш у Францыі, праводзіліся сацыялагічна-лінгвістычныя даследаванні: як польскія эмігранты інтэгруюцца ў іншую культуру, авалодваюць іншай мовай. І выявілася, што тыя эмігранты, якія дрэнна ведалі родную мову, з цяжкасцю авалодвалі французскай ці англійскай. І яно зразумела: у іх не было апоры, пункту адліку...

А цяпер спраецыруем вынікі даследаванняў польскіх вучоных на нашу сітуацыю. Беларус, які не ведае роднай мовы, а стартуе з «трасянкі», не ў стане добра вывучыць і ўсякую іншую мову, у тым ліку рускую. Адсутнасць апоры (бы ў міфічнага Антэя), няведанне матчынай мовы непазбежна спараджае мат, мататрасянку. Значыць, напрошваецца выснова: для таго, каб сёння добра валодаць другой дзяржаўнай мовай, трэба валодаць і першай, валодаць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі. Змаганне за родную мову, яе абарона сёння (будзем рэалістамі) найперш павінна ў нас рэалізавацца ў барацьбе за роўныя правы, роўныя фактычныя магчымасці развіцця для абедзвюх дзяржаўных моў.

Ужыў вось словы «змаганне», «барацьба», «абарона» і задумаўся: а ці з таго, найбольш мэтазгоднага і адзіна магчымага арсенала яны ўзяты? Ці не ў іх часткова хаваецца адна з прычын нашых нацыянальных пройгрышаў, нашага моўнага крызісу ў апошні час? Відаць, міфы, змагаючыся з бальшавіцкай ідэалогіяй, заставаліся і часткова засталіся ў яе метадалагічным палоне. Як бальшавікі хацелі фарсіравана і пад прымусам выхаваць новага сацыяльнага чалавека, так і мы хацелі са стагоддзямі дэнацыяналізаваных беларусаў атрымаць нацыянальна свядомых патрыётаў. Як там, так і тут надзея пераважна ўскладалася на ўказ, закон, а значыць, пэўным чынам і на прымус — у выпадку іх невыканання. Знаходзячыся ў стане эйфарыі, мы стварылі — і тут я згодзен з французскім беларусістам Бруна Дрвескім — штучны, ідэалізаваны вобраз беларуса, заклікалі яго фарсіраваць гісторыю. А народ аказаўся іншым. Дык што — цяпер крыўдаваць на яго? Казаць яму горкія словы? Не. На народ крыўдаваць нельга, бо мы — яго частка. Мы павінны яго зразумець, а тым самым зразумець і саміх сябе, і пакаяцца, дзе трэба (гавару гэта самакрытычна). І да змагання дадаць паўсяюдзённую працу, зрабіць яе галоўнай. Прыгадаем, як шчыравалі ў нас і нашых суседзяў на зары Адраджэння і вандроўныя настаўнікі-«дарэктары», і кніганошы, і гаспадары-прадпрымальнікі, і карэспандэнты-«нашаніўцы». Будзем працаваць — значыць адбудзецца трэцяя, сапраўдная, неадміністрацыйная беларусізацыя, значыць пераадолеем рэцыдывы хваробы, яшчэ больш страшнай, чым сама ранейшая хвароба, бо прыйшліся яны на аслаблены арганізм.

Сённяшняя рэчаіснасць — эканамічная, палітычная, маральна-крымінальная, моўная — выклікае песімізм. Зрэшты, так не ў адным беларускім грамадстве. Як сказаў нядаўна ў Дрэздэне Вацлаў Гавел, людзі ў посттаталітарных краінах адчуваюць сябе няўпэўнена, не ведаюць, куды і як арыентавацца. Яны нагадваюць вязняў, якія выйшлі з турмы на волю і цяпер часта адчуваюць настальгію па той жа вязніцы, бо там не трэба было думаць, рабіць выбар — за іх гэта рабілі іншыя. Так і ў Беларусі. Яе жыхары не маюць выразна акрэсленых арыенціраў, у тым ліку і моўных. Старыя, сацыялістычныя ідэалы для большасці насельніцтва згубілі сваю прывабнасць, актуальнасць. А новыя, «рыначныя» паўсталі перад намі ў сваім «дзікім» выглядзе. Таму і з'явіліся спробы даць нязвычныя арыенціры, спалучыць неспалучальнае: «дэмакратычны камунізм», «рыначны сацыялізм». Хаця неспалучальнасць тут хутчэй вонкавая. Усё залежыць ад таго, які сэнс укладваць у гэтыя словы. Калі ўзялі лепшае, што ёсць у дыяметральна процілеглых сістэмах, то атрымалі шведскі варыянт грамадства, ізраільскія кібуцы. Ва ўмовах Беларусі гэта можа азначаць арыентацыю на сапраўдныя каштоўнасці, якія ёсць і на Усходзе, і на Захадзе. Зрэшты, так і рабілі нашы продкі ў мінулыя стагоддзі, што дазволіла ім стварыць сінтэтычнае грамадства, сінтэтычную культуру ды і «сінтэтычную» мову.

Аднак перайманне суседняга дае плён толькі тады, калі яно ўзбагачае сваё, айчыннае. Нашым ідэалам ёсць на што абаперціся. Гэта — народная мудрасць, выяўленая і ў фальклоры, і ў літаратуры, і ў мастацтве, і ў звычаёвым праве. З іх выразна паўстаюць нашы дзяржаўныя, нацыянальныя, культурна-моўныя ідэалы, якія ніколькі не супярэчаць агульначалавечым.

У найбольш агульным выглядзе, які мог бы задаволіць кожнага беларуса, кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, нашы ідэалы ўяўляюцца мне наступным чынам.

Беларус любіць і шануе сваю зямлю, дадзеную яму Богам. Ён усяляк абараняе і прыхарошвае яе, пакідае нашчадкам чыстай і дагледжанай.

Беларус — руплівы гаспадар на сваёй зямлі. Ён не можа працаваць дрэнна, вырабляць тое, што нікому не патрэбна. Ён разумее, што толькі ад вынікаў яго працы — фізічнай і інтэлектуальнай — залежыць яго ўласны і агульны дабрабыт.

Беларус — добры сем'янін. Ён зберагае і памнажае ўсё лепшае, што засталося ад продкаў, каб перадаць сваім нашчадкам. Фізічнае і маральнае здароўе — аснова яго сям'і.

Беларус — асоба высокадухоўная. Ён шануе хрысціянскія і свецкія дабрачыннасці, з павагай ставіцца да іншых канфесій і перакананняў. Талерантнасць становіцца яго сілай, а не слабасцю, як цяпер.

Беларус любіць і шануе сваю мову, таксама дадзеную яму Богам. Але адначасова паважае і ведае іншыя мовы, якія спрадвеку існуюць на яго зямлі. У такой шматмоўнасці, шматкультурнасці, шматканфесіянальнасці ён бачыць не бяду, не падставу для варожасці, а дадатковую магчымасць узбагачэння.

І, урэшце, ідэалам усіх жыхароў беларусі павінен стаць агульны дом, супольная дзяржава, заснаваная на трывалым фундаменце высокай грамадзянскай свядомасці.

Пры ўсіх інтэграцыйных працэсах, непазбежных, мабыць, у сучаснай Еўропе, вакол такіх вось самых агульных ідэалаў і арыенціраў можна аб'яднаць грамадзян Беларусі, незалежна ад іх палітычных перакананняў і нацыянальнай прыналежнасці, дзеля выхаду з усіх нашых крызісаў. У тым ліку і моўнага.

**Вядучы рубрыкі Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

*З ПОШТЫ РУБРЫКІ*

## ЗВЯРТАЮСЯ ДА СЯБЕ І ДА ІНШЫХ

Апошні час пытаюся часта ў сябе: «Чаму гэта я, беларус па крыві і па месцу нараджэння, думаю і размаўляю па-руску?» Сапраўды — чаму? Можа, я з ліку «Иванов, не помнящих родства?» Не! І яшчэ раз — не!

У дзяцінстве я не чуў іншай мовы, чым мова бацькоў, мова Купалы і Коласа. У маёй роднай вёсцы (Асмолавічы, што на Рагачоўшчыне) усе гаварылі па-беларуску. І ў школе я чуў родную мову, а рускую толькі на ўроках рускай мовы і літаратуры. Натуральна, што дыктатны і сачыненні было пісаць лягчэй на беларускай і я пісаў іх на «выдатна». Дзякуючы таму, што ў хаце старшыні калгаса быў патэфон, я, як і іншыя падлеткі, мог слухаць рускія песні. Яны мне падабаліся. Але і ў галаву не прыходзіла, што з-за іх трэба адмаўляцца ад сваёй мовы і сваіх песень.

Але вось у канцы трыццатых, памятаю, становішча стала мяняцца, узяліся за справу сталінскія «рэфарматары». Пачалася ў адміністрацыйным парадку русіфікацыя культурнага асяроддзя. Потым служба ў арміі, вайна... Дахаты мы вярталіся, як бы сказаць, пераражджэнцамі ў адносінах да роднай мовы: мы ўжо размаўлялі на нейкім моўным сурагаце, які зараз называюць «трасянкай».

Прыгадваю, што калі пачаў вывучаць у маскоўскім інстытуце замежных моў іспанскую мову, то вельмі пакутваў ад пагардлівых кпінаў аднакашнікаў з нагоды майго вымаўлення, майго беларускага акцэнта. Прыйшлося прыкласці нямала намаганняў, шмат працаваць над сабой, каб пазбавіцца ад «трасянкі» і стаць нарэшце рускамоўным. Як філолагу мне гэта ўдалося. І калі я сам працаваў ужо выкладчыкам у Барнаульскім педінстытуце і расказваў калегам пра сваё беларускае вясковае паходжанне, то адна выкладчыца са здзіўленнем заўважыла: «Ну ты же и нахватался!» Мне было прыемна чуць такое, бо яна нарадзілася і выхоўвалася ў культурнай, амаль арыстакратычнай рускай сям'і.

Словам, цярністы шлях давялося прайсці, каб упэўнена адчуваць сябе ў рускамоўнай стыхіі. І яшчэ іспанская мова стала для мяне, па сутнасці, роднай мовай, бо выкладаў яе дваццаць з лішнім гадоў у ВНУ. А вось што тычыцца бацькоўскай, беларускай... Яна была, можна сказаць, чужой, іншаземнай. Не было ў ёй патрэбы ні ў інстытуце, ні ў гасцях, ні на вуліцы. Парадаксальная склалася сітуацыя: замежныя мовы мы вывучалі і навучалі ім іншых, а сваю, родную забывалі.

І вось прыйшоў час агледзецца і... перавучвацца. Мушу сказаць, што для тых, хто ў дзяцінстве размаўляў на роднай мове і вучыўся ва ўмовах беларускага асяроддзя, моўнае адраджэнне з'яўляецца рэальнай справай. Зыходжу, зноў-такі, з уласнага вопыту. Калі стала больш вольнага часу, пачаў зрэдку брацца за пяро, пісаць у газеты. То пра гісторыю сваіх родных Асмолавіч, сваіх дзядоў, то пра свайго знакамітага земляка паэта Міколу Сурначова, які гераічна загінуў у сорак пятым пад Берлінам. І ў нейкі момант адчуў, што пісаць мне лягчэй усё ж на беларускай мове, і лаўлю сябе на тым, што пачаў зноў, як калісь у дзяцінстве, думаць па-беларуску. Як быццам нікуды не дзеліся ні руская, ні іспанская, а вось верх над імі бярэ тая, якую спазнаў з малаком маці.

Як гэта яшчэ называецца? Вяртаннем да вытокаў? Так яно і ёсць.

**А. ПЛАДУНОЎ,**
**выкладчык іспанскай мовы,**
**ветэран вайны і працы.**

г. Мінск.

*ПАЭЗІЯ*

*СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ*

## Святло Ефрасінні

**«Нача книгы писати своими руками».**
*З «Жыція святой Ефрасінні Полацкай»*

Званіцы Сафіі залоціць дзянніца,
Усхліпвае соннаю хваляй Дзвіна.
Над Кнігай Святой у сваёй галубніцы
Шчыруе з прасветленым сэрцам яна.

Прыціхлі ў нямым утрапенні стагоддзі,
Глядзяць на той цуд,
што плыве з-пад рукі.
Пяшчотныя пальчыкі цвёрда выводзяць,
Нібыта выкоўваюць,
веры радкі.

Уборы князёўны на рызы чарніцы
Змяніла,
бо так пажадала душа.
Ёй срэбра і злата,
як іншым,
не сніцца,
Ёй хочацца люд да асветы зрушаць.

Жыццё як загадка, як вечная згадка,
Як радасны ўзмах маладога крыла.
Каб жыватварыць
дух і волю нашчадкаў,
Свой Крыж над Айчынай яна ўзняла.

Нябеснай заступніцы нашай
малітва
Не ціхне,
не моўкне
з дня ў дзень,
з году ў год,
Таму і Ўсявышні пакуль мае літасць —
Не спіхвае ў бездань панылы народ...

І сёння яна прачынаецца рана,
Рыпіць па пергаменту пёрка-сціло...
Ліецца,
ліецца над краем забраным
Душы Ефрасінні
святое святло.

## БЕСПРЫТУЛЬНАСЦЬ

Хавае блудлівыя вочы
Гандлярская згода.
Мяне ашчаслівіць зноў хочуць
Па волі народа.

Народа,
які затаптала
Хлуслівая пошасць,
А потым яго абабрала
Да ніткі апошняй.

Яшчэ засталася радзіма —
Таксама на продаж!
Глядзіць на вар'яцкае дзіва
Збянтэжаны продак.

Бо нават яму на пагосце
Цяпер беспрытульней...
О, як нам уеліся ў косці
Махлярскія гульні!

Няма ўжо слязы,
каб заплакаць
Мне з гэтай прычыны.
Жыву,
як бяздомны сабака,
Хоць маю Айчыну.

***

Мы ўсе нараджаемся толькі з любові,
З святой або грэшнай,
ды сутнасць не ў тым...
Прастрэлена сэрца
пранізлівым болем,
Здаецца,
што ў прорву
даўно ўжо ляцім.

Забыты спрадвечныя песні і радасць
Ад працы жаданай,
ад шчырых размоў.
Залезлі на трон
цемрашальства і здрада,
Атручаны імі
і душы,
і кроў.

З нас кожны —
жыхар назаўсёды, часовы,
А вечнае тое,
што продкі далі.
Адкуль жа нянавісць
да роднае мовы,
Да нашай,
што корміць і поіць,
зямлі?

Мы ўсе нараджаемся толькі з любові...
Сканала любоў,
зарастаюць сляды...
Шчыміць маё сэрца,
бо ў хлебе і ў слове
Мацнее
чарнобыльскі прысмак
бяды.

## КОЛЕРЫ

Белыя птушкі на чорным пагосце,
Чорныя птушкі на белым пагосце...

Моўчкі сядзяць і чакаюць кагосьці
Птахі над вечным спакоем —
Не адмахнешся з пагардай і злосцю
І не заслоніш рукою.

Вечнасці ў вочы без страху і млосці
Гляну душою збалелай...
Колеры радасці згінулі штосьці,
Нават у снах — чорна-бела,
Бо прылятаюць няпрошана госці:

Чорныя птушкі на белым пагосце,
Белыя птушкі на чорным пагосце...

## РАТУНАК

Пашчасціла мне ці не?
Гаворка якраз не пра гэта.
Жыву я ў той старане,
Якая нічым не сагрэта.

Яе неспазнаны лёс
Няясныя мае абрысы:
Тут мора хлусні і слёз,
Тут тлее над воляю прысак.

Хто толькі рук не прыклаў,
Каб стала чужою айчына,
І, можа б, долю пракляў,
Калі б не яна, не жанчына.

Дасюль ратуюць мяне
Ад подлага рабства заўсёды
Яе каханне і гнеў
Размахам жаданай свабоды.

За гэту мілосць і гром,
За вочы,
што скінула неба,
Расплачваюся жыццём,
І рэшты — не трэба, не трэба...

*КРЫК ДУШЫ*

## ВЯРНІЦЕ СЯМ'І ГАСПАДАРА, А ДЗЕЦЯМ — БАЦЬКУ

**Многа думала, перш чым напісаць, і ўсё ж вырашыла, бо, як гаворыцца, звяртаюся да вас з апошняй надзеяй.**

У ліпені 1995 г. майго мужа па рашэнню народнага суда адправілі на лячэнне ад алкагалізму ў ЛПП, але месцаў там адразу не было, і да кастрычніка ён знаходзіўся дома. За гэты час прайшоў курс лячэння ў стацыянары в. Жаборты Дзятлаўскага раёна, аднак на гэта ніхто ўвагі не звярнуў, і муж з 17 кастрычніка знаходзіцца ў ЛПП г. Навагрудка. Я засталася адна ў двума малалетнімі дзецьмі — 12 гадоў і 4 гады. Працую санітаркай у бальніцы, зарплата — малая. А за ўсё трэба плаціць: за святло, дзіцячы сад, харчаванне ў школе, музычную школу, тэлефон, кватэру. Колькі застаецца ад зарплаты, я думаю, не цяжка падлічыць. Муж, знаходзячыся там ужо паўгода, нічым нам не дапамагае, таму што іх не забяспечваюць работай.

Калі муж быў дома, то працаваў, і ў суд яго забралі з рабочага месца. З работы яму далі добрую характарыстыку. Не, я яго не абараняю, не гавару, што ён анёл і дарэмна да яго прычапіліся. Так, ён захапляўся «гэтай справай», а яшчэ быў асуджаны ў 1985 г. Але сваё пакаранне ён адбыў, а ўчастковы лічыць так: калі ты быў асуджаны — значыць табе ўжо не месца на волі, і адправіў мужа ў ЛПП. А вось што сям'я засталася без сродкаў да існавання — нікому няма справы. За кватэру я не заплаціла своечасова, пазбавілі субсідыі і прыслалі паперку на 530 тысяч; калі не заплачу гэту суму своечасова, будуць вырашаць пытанне аб высяленні. Запісалася на прыём у Адміністрацыю Прэзідэнта, расказала пра сваё гора, а там мне далі параду — афармляй дзяцей у дзіцячы дом, а сама плаці за кватэру. Наогул, гэта твае праблемы, і сама іх вырашай.

Наколькі ведаю, муж ужо прайшоў курс лячэння, зрэшты, якое там лячэнне, калі чаборам лечаць алкагалізм? А яшчэ яму прапаноўваюць: маўляў, калі дасі распіску, што зноў не возьмешся за бутэльку, выпусцім. Дык чаму ніхто не ідзе яму насустрач, каб муж зарабляў грошы і карміў дзяцей, якія галадаюць?

Проста не магу зразумець: як адарваць чалавека ад работы, зрабіць яго беспрацоўным, дык знайшлі закон, а вось каб чалавек дапамагаў сям'і, дзецям у гэты цяжкі час — такога закона няма. І што гэта за законы ў нашай дзяржаве, калі яны скіраваны на развал сям'і.

І зараз я з дзецьмі павінна хадзіць па райвыканкомах, выпрошваць дапамогу, каб заплаціць за кватэру. Вось наступіла вясна, мне трэба пасадзіць бульбу, грады. Хто мне пасадзіць, дзе я набяруся тых бутэлек, каб усім імі заплаціць? Паўтараю: я яго не абараняю, але ўсё ж маім дзецям патрэбен бацька, тым больш, што ён вельмі працавіты мужык, у яго «залатыя рукі», ён усё можа зрабіць.

Прабачце, калі дрэнна напісала, больш няма сіл цярпець гэта. Калі б там на самай справе праводзілася хоць якое-небудзь лячэнне, а так там толькі прытулак для бамжоў. Няўжо адміністрацыя ЛПП атрымае меншую зарплату, калі прадаставіць мужу магчымасць вярнуцца ў сям'ю? Начальнік ЛПП сказаў, што гэта вырашае суд, а абласны суд адказаў мне, што рашэнне суда няма магчымасці адмяніць, таму што муж раней быў асуджаны. Дык што, калі чалавек адзін раз учыніў злачынства, значыць яму ўсё жыццё несці пакаранне?

Дапамажыце маёй сям'і вярнуць бацьку і мужа.

**А. Л.**

**P. S.** Маё прозвішча і адрас, калі можна, не ўказвайце ў газеце.

## ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ!

***Кажуць людзі: лепш позна, чым ніколі... Завяршыўшы ў канцы мінулага года конкурсную рубрыку «Агульны сшытак», мы меркавалі, што ўжо ў студзені гэтага года падвядзём вынікі, назавём імёны пераможцаў, узнагародзім іх... Што ж, вынікі былі падведзены адразу. А вось выканаць другую частку нашых планаў мы не змаглі па прычынах вельмі важкіх, але ад рэдакцыі ніяк не залежных.***

І вось, нарэшце, мы называем імёны пераможцаў «Агульнага сшытка» і конкурсу прыпевак.

I. У намінацыі **«З дому»** — Таццяна Стахейка (Мінск) і Лідзія Фарботка (вёска Пруды, Стаўбцоўскі раён).

II. У намінацыі **«Бываліца»** — Ігар Пракаповіч (Паставы) і Марыя Цімінская (вёска Дзераўцы, Асіповіцкі раён).

III. У намінацыі **«Слоўка-салоўка»** — Мікалай Трубчык (вёска Лелікава, Кобрынскі раён).

IV. У намінацыі **«Сам сабе чараўнік»** — Іван Волкаў (вёска Псуя, Глыбоцкі раён) і Ніна Захарэвіч (Пастановы).

V. У намінацыі **«Перапевы»** — Ала Гайдоўская (Мінск) і Віталь Лапіцкі (Бабруйск).

VI. У намінацыі **«Байка»** — Галіна Сяргей (Гродна).

Лепшымі «прыпевачнікамі» прызнаны Мікола Камароў (Мінск), Сцяпан Кухарчук (Івацэвічы), Фёдар Лашкевіч (вёска Ліпень, Асіповіцкі раён), Станіслаў Лось (Глыбокае), Іван Міхайлоўскі (вёска Папелевічы, Смаргонскі раён), Станіслаў Шушэвіч (Мінск), Людміла Юшына (Гомель).

Усім адзначаным удзельнікам будуць уручаны прызы ад спонсара конкурсаў — фірмы «Дайнова». Мы віншуем пераможцаў і дзякуем усім удзельнікам конкурсаў. Да новых цікавых сустрэч на старонках «Звязды»!

ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Заключэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь

**Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1995 г. № 406 «Аб унясенні змянення ў пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. № 7» і абзаца другога пункта 7 Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1995 г. № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы»**

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка старшыні суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І.

з удзелам

прадстаўнікоў бакоў

Камісіі па заканадаўству Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая ўнесла прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці актаў — Новака В. А. — сакратара камісіі:

Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь —

Саснова А. В. — міністра працы Рэспублікі Беларусь,

Сукала В. А. — міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь

спецыяліста Шчарбацэвіч Я. П. — намесніка загадчыка аддзела заканадаўства аб сацыяльным развіцці Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства;

сведак: Каценка Н. Ф. і Шпакава С. Г.

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1995 г. № 406 «Аб унясенні змянення ў пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. № 7» (не для друку) і абзаца другога пункта 7 Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1995 г. № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь. 1995. № 36. Арт. 897).

У судовым пасяджэнні прыняў удзел Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1995 г. № 406 «Аб унясенні змянення ў пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. № 7» узбуджана 22 снежня 1995 г. па прапанове Камісіі па заканадаўству Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання. У прапанове ўказвалася, што пастанова Кабінета Міністраў супярэчыць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь, таму што парушае правы ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў на сацыяльнае забеспячэнне. Адзначалася таксама, што пастанова не была апублікавана ў друку, што супярэчыць артыкулам 7, 34 і 52 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Пасля выдання 30 снежня 1995 г. Кабінетам Міністраў Пастановы № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы» Камісія па заканадаўству Вярхоўнага Савета 5 студзеня 1996 г. звярнулася ў Канстытуцыйны суд з прапановай аб праверцы абзаца другога пункта 7 указанай пастановы на прадмет адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

Камісія па заканадаўству Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання падтрымала ўнесеныя ў Канстытуцыйны суд прапановы.

19 сакавіка 1996 г. Канстытуцыйны суд узбудзіў вытворчасць па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь абзаца другога пункта 7 Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1995 г. № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы» і аб'яднаў яго ў адну вытворчасць са справай «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1995 г. № 406 «Аб унясенні змянення ў пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. № 7».

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, спецыяліста, сведак, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі, законаў і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны суд устанавіў наступнае.

Артыкул 47 Канстытуцыі гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь права на сацыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы, інваліднасці, страты працаздольнасці, страты карміцеля і ў іншых выпадках, прадугледжаных законам.

У адпаведнасці з артыкулам 21 Канстытуцыі забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы. Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы.

Згодна з артыкулам 23 Канстытуцыі абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб.

Артыкул 146 Канстытуцыі ўстанаўлівае, што ў выпадку разыходжання закона з Канстытуцыяй дзейнічае Канстытуцыя, а ў выпадку разыходжання іншага нарматыўнага акта з законам — дзейнічае закон.

Артыкулам 12 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» прадугледжана, што любы закон не можа быць зменены ці адменены інакш, як шляхам прыняцця новага закона ці ўнясення змяненняў і дапаўненняў у дзеючы.

У адпаведнасці з артыкулам 2 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні» ўмовы, нормы і парадак пенсіённага забеспячэння ваеннаслужачых, а таксама асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і членаў іх сем'яў рэгулююцца заканадаўствам аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых.

Спецыяльным законам, які вырашае ўказаныя пытанні, з'яўляецца Закон «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў», прыняты Вярхоўным Саветам 17 снежня 1992 года. У ім замацоўваюцца ўмовы назначэння пенсій гэтым катэгорыям асоб, памеры пенсій, а таксама парадак іх вылічэння з улікам асаблівасцей ваеннай службы і службы ў органах унутраных спраў. Артыкулам 13 Закона да ведання Кабінета Міністраў аднесены пытанні, звязаныя з парадкам назначэння і выплаты пенсій, вызначэннем асаблівасцей вылічэння выслугі гадоў асобных катэгорый ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў з захаваннем гарантый, прадугледжаных гэтым законам. У той жа час Кабінету Міністраў не прадастаўлена права змяняць устаноўленыя законам памеры пенсій.

Згодна з часткай трэцяй артыкула 42 гэтага закона пенсіі асобам афіцэрскага саставу, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і іх сем'ям налічваюцца з грашовых сродкаў гэтых ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу. Для налічэння ім пенсій улічваюцца ў парадку, які вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, адпаведныя аклады па штатнай або апошняй займаемай пасадзе, аклады па воінскаму або спецыяльнаму званню, працэнтная надбаўка за выслугу гадоў (няспынную службу або работу), грашовая кампенсацыя ўзамен харчовага пайка, уключаючы выплаты, звязаныя з індэксацыяй грашовых сродкаў. Указанае грашовае забеспячэнне ў частцы, якая не перавышае 10-разовага памеру мінімальнай заработнай платы, улічваецца пры налічэнні пенсіі поўнасцю, а астатняя яго частка — у памеры 50 працэнтаў.

Пастановай Кабінета Міністраў ад 31 ліпеня 1995 г. № 406 было ўстаноўлена, што з 1 жніўня 1995 года для ваеннаслужачых (акрамя ваеннаслужачых тэрміновай службы), асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў прымяняецца каэфіцыент 0,9 да службовага акладу. Гэтай жа пастановай прадугледжвалася, што пры налічэнні пенсій аклады за воінскія (спецыяльныя) званні і службовыя аклады ўлічваюцца з прымяненнем каэфіцыента 0,8.

Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1995 г. № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы» прызнана страціўшай сілу пастанова ад 31 ліпеня 1995 г. № 406. Адначасова абзацам другім пункта 7 гэтай пастановы прадугледжана, што пры налічэнні пенсіі аклады за воінскія (спецыяльныя) званні і службовыя аклады ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў улічваюцца з прымяненнем каэфіцыента 0,8.

Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што Кабінет Міністраў, устанавіўшы норму аб тым, што для разліку пенсій аклады за воінскія (спецыяльныя) званні і службовыя аклады ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў улічваюцца з прымяненнем каэфіцыента 0,8, фактычна змяніў нормы пенсіённага забеспячэння, гарантаваныя Законам «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў». Тым самым Кабінет Міністраў перавысіў свае паўнамоцтвы і парушыў артыкулы 21, 23 і 146 Канстытуцыі, артыкул 12 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», а таксама частку трэцюю артыкула 42 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў».

Канстытуцыйны суд звяртае таксама ўвагу Кабінета Міністраў на недапушчальнасць увядзення ў дзеянне нарматыўных актаў, якія датычаць правоў, свабод і абавязкаў грамадзян, без іх афіцыйнага апублікавання, што, у прыватнасці, мела месца ў адносінах да пастановы Кабінета Міністраў ад 31 ліпеня 1995 г. № 406. Гэта не адпавядае артыкулу 34 Закона «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь», пункту 1.2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 жніўня 1994 г. № 49 «Аб некаторых пытаннях арганізацыі работы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь», а таксама не стасуецца з рашэннем Канстытуцыйнага суда ад 9 лістапада 1994 года «Аб прымяненні ў Рэспубліцы Беларусь неапублікаваных або не даведзеных да ўсеагульнага ведама іншым прадугледжаным законам спосабам нарматыўных актаў дзяржаўных органаў».

З улікам выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 11, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь

вырашыў:

1. Прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1995 г. № 406 «Аб унясенні змянення ў пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 1995 г. № 7», а таксама абзац другі пункта 7 Пастановы Кабінета Міністраў ад 30 снежня 1995 г. № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы». Лічыць іх не маючымі юрыдычнай сілы з моманту выдання.

2. Прапанаваць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь прывесці рашэнні ўрада ў адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

3. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і тых выданнях, дзе была апублікавана Пастанова Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1995 г. № 707 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы».

4. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ**

10 красавіка 1996 г., г. Мінск
№ 3-32/96.

## УСЁ ШВЕДЫ Ў ГОСЦІ ДА НАС. АЛЕ І МЫ ДА ІХ — ТАКСАМА

**Нягледзячы на традыцыйную ўсебеларускую непавагу да адукацыі (вось і багаты на таленты ліцэй пры Беларускім дзяржаўным універсітэце месціцца ва ўмовах і антысанітарных, і ненармальных у сэнсе пажарнай бяспекі), зараз гасцямі беларускай сталіцы з'яўляюцца шведскія школьнікі.**

А прыехалі вучні старэйшай у Швецыі школы (яна мае 350-гадовую гісторыю) якраз у той жа ліцэй пры Белдзяржуніверсітэце. На працягу дзесяці дзён юнакі і дзяўчаты з горада Векшэ праходзяць вучэбна-азнаямляльную стажыроўку. Адметна, што практыка падобных кантактаў доўжыцца вось ужо чацвёрты год. За гэты час у Швецыі пабывала каля 100 беларускіх ліцэістаў. Вось і зараз, пасля візіту шведскіх гасцей, 30 навучэнцаў ліцэя правядуць дзесяцідзёнку ў школе далёкага Векшэ. Дарэчы, Швецыя не адзіная краіна, куды наведваюцца, каб набрацца вучнёўскага вопыту, беларускія ліцэісты. Ёсць у іх трывалыя сувязі і з Англіяй, ЗША, Венгрыяй.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КОЛЬКАСЦЬ БЕСПРАЦОЎНЫХ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ ЎЗРАСЦЕ АМАЛЬ УДВАЯ...

**Паводле прагнозу, сёлета на рынку працы Віцебшчыны з'явяцца 133,1 тысячы чалавек.**

З іх, як чакаецца, 76,2 тысячы працаўладкуюцца самастойна, а яшчэ 19 тысяч — пры дапамозе службы занятасці. 11,6 тысячы чалавек па самых розных прычынах будуць зняты з уліку службы, а колькасць беспрацоўных, такім чынам, складзе на канец года 26,3 тысячы чалавек. Цікава, што на пачатак года колькасць «лішніх людзей» у вобласці была амаль удвая меншая — 13 тысяч 430 чалавек.

**Сяргей ГРЫБ.**

**Сярод нямногіх прадпрыемстваў краіны, якія насуперак эканамічным катаклізмам упэўнена рухаюцца да намечанай мэты,— акцыянернае таварыства «Атлант» па выпуску бытавых халадзільнікаў «Мінск». Ва ўмовах вострай канкурэнцыі, нялёгкага падатковага прэса, што непамерным цяжарам кладзецца на вытворцаў, недахвату абаротных сродкаў, калектыў не толькі не зніжае тэмпаў, але і нарошчвае аб'ёмы выпуску прадукцыі. Халадзільнікі з маркай «Мінск» прабіваюць дарогу на сусветны рынак, карыстаючца попытам сярод спажыўцоў як на Усходзе, так і на Захадзе.**

**Учора на прадпрыемстве адбыліся штогадовы сход акцыянераў і канферэнцыя працоўнага калектыву. Аб вытворчых здабытках калектыву, яго планах на будучае гаварылі рабочыя прадпрыемства, акцыянеры. Гэтай знамянальнай падзеі і прысвячаюцца матэрыялы выпуску.**

*Леанід КАЛУГІН:*

# «ЗАДАЧА ДНЯ — ПРАЦАВАЦЬ НА АПЯРЭДЖАННЕ»

**Ужо сем гадоў узначальвае Мінскі завод халадзільнікаў Леанід Калугін, які прайшоў шлях ад рабочага да кіраўніка буйнейшага ў рэспубліцы прадпрыемства.**

**Апошнім часам Леанід Іванавіч з'яўляецца прэзідэнтам акцыянернага таварыства «Атлант» па выпуску бытавых халадзільнікаў «Мінск».**

**Учора ў жыцці шматтысячнага калектыву адбыліся знамянальныя падзеі — штогадовы сход акцыянераў і канферэнцыя працоўнага калектыву. Напярэдадні мы сустрэліся з Леанідам Іванавічам і папрасілі падзяліцца думкамі пра здабыткі мінулага года, расказаць аб планах і перспектывах на будучае.**



— ЦЯЖКАСЦЕЙ У НАШ ЧАС ЗАЎСЁДЫ ХАПАЕ, — гаворыць Леанід Іванавіч. — Але колькі б мы ні спасылаліся на іх, ад гэтага не лягчэй. Важна ўмець знаходзіць рашэнні ў любой сітуацыі, працаваць на апярэджанне. У гэтым — задача дня, выйсце з самага складанага становішча. Што і пацвярджаецца лепш за ўсё дасягнутымі вынікамі работы ў мінулым годзе. Летась мы выпусцілі 745 тысяч халадзільнікаў — на 5 тысяч больш, чым у папярэднім годзе. За гэты ж час на Баранавіцкім станкабудаўнічым заводзе, які ўваходзіць у састаў нашага акцыянернага таварыства, выпуск кампрэсараў для халадзільнікаў давялі да 1 мільёна 100 тысяч, што на 330 тысяч перавышае ранейшы паказчык. Нягледзячы на ўсе складанасці ў эканоміцы, атрымалі 447 мільярдаў рублёў прыбытку. Ён пайшоў на далейшую рэканструкцыю і расшырэнне вытворчасці, папаўненне ўласных абаротных сродкаў, сацыяльную сферу.

Немалаважнай заслугай усяго калектыву з'яўляецца тое, што мы, бадай, першымі сярод аднатыпных прадпрыемстваў у краінах СНД перайшлі на выпуск азона-бясшкодных агрэгатаў. І хоць на гэта затрачана нямала часу і сродкаў, аднак і вынік радуе: дакладна выконваем міжнародныя патрабаванні, што мае рашаючае значэнне пры выхадзе са сваім таварам на сусветны рынак.

Пастаянна абнаўляецца гама вырабаў. Сёлета паставім на паток восем мадэляў халадзільнікаў з маркай «Мінск», якія і па дызайну, і па эканамічнасці, эксплуатацыйных якасцях не ўступаюць еўрапейскім аналагам.

**— Дарэчы, пра эканамічнасць. Большасць бытавых электрапрыбораў грашаць менавіта павышаным спажываннем энергіі. А як на гэтым фоне выглядаюць вашы халадзільнікі?**

— Праблемам энергазберажэння на прадпрыемстве надаецца выключна вялікае значэнне. Ужо сёння па гэтых параметрах халадзільнікі «Мінск» на ўзроўні лепшых еўрапейскіх аналагаў. І тут многае залежыць ад кампрэсара. Перад намі паўстала задача — або купляць кампрэсары за мяжой, або іх выпуск наладзіць у нашай рэспубліцы. Спыніліся на апошнім варыянце. Партнёрам у гэтай справе стаў Баранавіцкі станкабудаўнічы завод. Закупілі навейшую тэхналогію па вытворчасці высокаэканамічных кампрэсараў у японскай фірмы, якая паставіла і адпаведнае абсталяванне. У выніку ў рэкордна кароткі час, усяго за паўтара года, змаглі пабудаваць, адладзіць і запусціць новую вытворчасць, разлічаную на выпуск 1,5 мільёна кампрэсараў, якія па сваіх якасцях знаходзяцца на ўзроўні сусветных патрабаванняў. І цяпер працягваем працаваць над іх далейшым удасканаленнем. Неўзабаве будзе запушчаны ў серыю новы ўзор кампрэсара, які дазволіць на 10—15 працэнтаў эканоміць электраэнергію. Пры сённяшніх цэнах на яе — немалаважны фактар.

**— Цяпер важна не столькі выпусціць прадукцыю, няхай сабе і самай лепшай якасці, колькі знайсці для яе пакупніка. Ва ўсім свеце нарастае вострая канкурэнтная барацьба за рынкі збыту. Якія захады робіце, каб прабіцца туды?**

— Усур'ёз заняліся маркетынгам, вывучаем запатрабаванні спажыўцоў. Апошнім часам прымалі ўдзел у многіх прэстыжных міжнародных выстаўках-кірмашах, у тым ліку у Бірмінгеме, што ў Англіі, а таксама ў польскім горадзе Познані, Ніжнім Ноўгарадзе, Новасібірску... На маю думку, мы занадта ахвочыя да ўсяго замежнага, не звяртаем належнай увагі на айчынныя тавары. Вось і плыве да нас усё без разбору, нярэдка далёка не лепшай якасці. Быў зроблены пэўны перапынак у пастаўках мінскіх халадзільнікаў у краіны Сярэдняй Азіі з-за адсутнасці механізма ўзаемных разлікаў. І на сённяшні дзень адсутнічае дамоўленасць паміж нацбанкамі Беларусі, Казахстана, Узбекістана аб узаемнай канвертацыі валюты. У выніку даводзіцца разлічвацца доларамі, якіх усюды не хапае. Але асноўным нашым рынкам была і застаецца Расія. Дарэчы, увесь метал, значную масу камплектуючых вырабаў атрымліваем менавіта адтуль.

Не забываемся і пра свайго спажыўца. Раней гандлёвыя арганізацыі спрабавалі «накручваць» свае працэнты на гандлі нашымі халадзільнікамі. Давялося разарваць кантракты з тымі фірмамі і магазінамі, якія непамерна ўздымалі планку гандлёвых «накрутак». Цяпер абгавораваем максімальныя надбаўкі да цаны: летам — пятнаццаць працэнтаў, зімой — дзесяць.

А ўвогуле ўсе ўмовы сёння дыктуе рынак, прамы кантакт са спажыўцом. Быць гаспадаром свайго тавару ва ўмовах вострай канкурэнцыі — значыць цалкам разлічваць на сябе, свае сілы, магчымасці: зрабіў — прадай, прычым без усялякай датацыі з боку дзяржавы. Адзінае выйсце тут — высокая якасць пры адносна меншых затратах. Таму і адказнасць у наш час узрастае ў дзесяткі, сотні разоў.

Пашыраем і сетку сервіснага абслугоўвання. Гэта таксама станоўча ўплывае на імідж нашага прадпрыемства. Неўзабаве плануем адкрыць шэраг фірменных магазінаў. Двайная выгада: з аднаго боку, лягчэй і прасцей будзе збываць тавар, з другога — адсочваць запатрабаванні спажыўца. Так сказаць, зваротная сувязь.

**— Большасць прадпрыемстваў сёння спрабуе адмовіцца ад сацыяльнай сферы, або ў лепшым выпадку ўсяляк абмяжоўваюць сродкі для яе. Вы ж, наколькі вядома, і жыллё працягваеце будаваць, і дзіцячыя садкі ўтрымліваеце, і на медыцыну, фізкультуру і спорт грошай не шкадуеце.**

— Як ні цяжка цяпер, але працягваем вырашаць жыллёвую праблему. Сёлета, напрыклад, мяркуем увесці ў эксплуатацыю каля паўтары сотні кватэр. Ну як рабочаму з яго адносна невысокай зарплатай купіць трохпакаёўку, калі яна цягне на 20 тысяч долараў? Вось і стараемся дапамагчы людзям. Тым, хто мае вострую патрэбу ў жыллі, выдаём пазыку. Забудоўшчык спачатку аплачвае 10 працэнтаў кошту кватэры, астатнюю суму крэдытуе на 10 гадоў прадпрыемства. Але і тут падыходзім канкрэтна: а якая ў чалавека зарплата, колькі ў яго дзяцей, які яго ўклад у справы прадпрыемства? І калі матэрыяльнае становішча цяжкае, частку крэдыту пагашаем за кошт прадпрыемства. Пэўнай катэгорыі людзей (пенсіянерам, інвалідам) жыллё наогул даецца бясплатна. Стараемся падыходзіць з улікам канкрэтных абставінаў. На балансе прадпрыемства тры дзіцячыя садкі, заводскі прафілакторый, медсанчасць, завяршаем будаўніцтва фізкультурна-аздараўленчага комплексу. За глабальнымі справамі імкнёмся не забываць пра канкрэтнага чалавека, яго турботы. Памятаем і пра нашых пенсіянераў. Многія атрымліваюць дабаўкі да сваёй асноўнай пенсіі. І зарплата стабільная. За мінулы год яна павялічвалася ажно шэсць разоў. Словам, стабільная работа і добрыя заробкі, вырашэнне сацыяльных праблем і прыводзяць да таго, што на прадпрыемстве адсутнічае цякучасць кадраў.

**— І апошняе. Бываючы на многіх прамысловых прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, перш за ўсё заўважаеш незвычайную ўзвінчанасць, заклапочанасць, нервовасць. У вашых жа рабочых, інжынераў нейкія прасветленыя твары. На іх выразна бачна задавальненне. І адносяцца яны да сваіх абавязкаў з душой, лічаць гэта кроўнай справай. Як вам удаецца ўсё гэта?**

— Стагоддзямі людзі імкнуліся знайсці свайго роду формулу шчасця. І вось неяк давялося пачуць: шчасце — калі чалавек з радасцю ідзе раніцай на работу, а вечарам задаволены вяртаецца дадому. Як трапна сказана! Таму і імкнёмся стварыць у калектыве такую атмасферу, каб людзі сапраўды з радасцю ішлі на работу. Бо нішто так не ўзвышае чалавека, як праца. Таму побач са стварэннем нармальнай рабочай абстаноўкі імкнёмся ўсяляк заахвочваць уклад кожнага чалавека ў агульную скарбонку спраў. Для гэтага ёсць дошка Гонару і граматы, што ўручаюцца прынародна, прызы, падарункі. Да таго ж пра лепшых людзей стараемся больш пісаць у сваёй шматтыражнай газеце. І на сходах іх не абыходзяць увагай.

Або ўзяць такую выключна тонкую сферу дзейнасці, як творчасць. Колькі іх, сапраўдных творцаў, на заводзе! Шырока прапагандуем рух рацыяналізатараў і вынаходнікаў. Яны — залаты фонд прадпрыемства. Пастаянна клапоцімся аб павышэнні агульнаадукацыйнага ўзроўню, кваліфікацыі работнікаў прадпрыемства. Усё гэта і стварае той спрыяльны мікраклімат, дзе кожны адчувае сябе як у вялікай дружнай сям'і. На тым і стаім.

# ГАЛОЎНЫ КАНВЕЕР

## РЭПАРТАЖ







Плаўна, сантыметр за сантыметрам, рухаецца стальная стужка канвеера. Вось на пляцоўцы, якая яшчэ некалькі секунд назад была пустой, з'яўляецца беласнежная шафа, знешне падобная на халадзільнік. Але пакуль толькі знешне. Гэта — каркас, аснова будучага халадзільнага агрэгата. Малады рабочы Аляксандр Кашкан хутка, у вокамгненне, навешвае на касцяк шафы першы вузел — электрычную панель, дзе мацуюцца ўнутранае асвятленне, тэрмарэгулятар. Працуе спрытна, дакладна, кожны рух яго дакладна разлічаны, выверany. А ён жа на канвееры ўсяго паўгода.

— Раней побач працавала некалькі дужых малайцоў, якія падносілі каркасы шафаў і ставілі іх на канвеер, — тлумачыць кіраўнік групы тэхнічнай інфармацыі Мікалай Васілеўскі, які суправаджае нас у гэтай своеасаблівай экскурсіі па Мінскаму заводу халадзільнікаў. — Потым заводскія ўмельцы сканструявалі і змантаравалі спецыяльныя аўтаматычныя лініі па падачы на канвеер гэтых шафаў. Якая эканомія працы і часу!

Пакуль адзін рабочы навешваў на шафу электрычную панель, другі з процілеглага боку канвеера ўстанаўліваў кампрэсар. Некалькі секунд — і ён на месцы...

Напярэдадні мы пабывалі ў канструктарскім аддзеле — свайго роду мазгавым цэнтры завода, дзе ідэі ўвасабляюцца ў якасна новыя распрацоўкі.

— Вось гэтыя кульманы, якія вы бачыце, — тлумачыць кіраўнік групы сістэмы аўтаматычнага праектавання Юрый Прадзед, — дажываюць тут апошнія дні. І наогул праз пару месяцаў не пазнаць будзе памяшкання. З завяршэннем намечанай рэканструкцыі па тэхнічнаму аснашчэнню мы ўступім у XXI стагоддзе: усе працэсы распрацоўкі асобных вузлоў і ў цэлым новай гамы халадзільнікаў будуць ажыццяўляцца выключна праз камп'ютэры. Дарэчы, кульманамі і так на працягу апошніх двух гадоў ніхто з канструктараў ужо не карыстаецца, іх надзейна замянілі камп'ютэры, між іншым, найлепшых узораў, набытых у ЗША. Яны зручныя ў рабоце, маюць неабходны запас памяці, надзейна ахоўваюць тэхнічныя сакрэты, што ў наш час мае выключнае значэнне. У новых нашых халадзільнікаў, што зараз распрацоўваюцца, выкарыстоўваецца сучасны дызайн. Мы дабіваемся, каб мінскі халадзільнік найперш меў свой адметны твар, не падобны на іншыя. І, здаецца, дабіліся свайго. Ужо ў гэтым месяцы пастаўлены на паток якасна новы ўзор халадзільніка «Мінск-152» — двухкамернага, з прыгожай знешняй аддзелкай і дакладна прадуманай унутранай планіроўкай. Ён эканамічны, мае шэраг пераваг не толькі над аналагічнымі вырабамі ў краінах СНД, але і ў Еўропе. І пакупнік гэта адразу ацаніў: ва ўсякім разе, узоры гэтай гамы халадзільнікаў больш за гадзіну ў магазінах не затрымліваліся. З поспехам укараняем у вытворчасць шэраг камп'ютэрных тэхналогій хуткага мадэліравання. Ёсць абсталяванне для выпуску дробнааптовых партый — па 100—200 штук. У планах нашых канструктараў — якасна новыя ўзоры, якія па сваіх параметрах будуць адпавядаць сусветнаму ўзроўню, а ў нечым і наогул не мець аналагаў. Толькі пры такой умове мы выканаем асноўную задачу: з[illegible]жам выстаяць і перамагчы ў [illegible]рай канкурэнтнай барацьбе за рынкі збыту.

З канструктарскага бюро мы трапілі ў доследна-эксперыментальны цэх — месца, дзе распрацоўкі праекціроўшчыкаў увасабляюцца ў метал і пластмасу, нараджаюцца ўзоры новых халадзільнікаў. Намеснік начальніка цэха Іван Кручок з гордасцю паказваў справы рук тутэйшых умельцаў. Прычым многім з іх апрача высокай тэарэтычнай і практычнай падрыхтоўкі ўласцівы дар творцы. Тут мы ўбачылі якасна новы ўзор халадзільніка «Мінск-258», з акругленымі дзверцамі, які сваім знешнім і ўнутраным дызайнам, зручнасцю, надзейнасцю, эканамічнасцю пераўзыходзіць вядомыя айчынныя і замежныя маркі.

— Сярод тых, хто стварае гаму навейшых агрэгатаў, брыгадзір слесараў Аркадзь Махрачоў, — расказвае Іван Пятровіч. — Залатыя рукі ў чалавека! Летась падышоў час яму ісці на заслужаны адпачынак, а тут як раз у самым разгары распрацоўка мадэлі «Мінск-152», ды і новую электраплітy трэба было ўвасабляць у метал. Адчуваем, не справімся без Аркадзя Сяргеевіча. І брыгадзір зразумеў нас, застаўся ў калектыве. Такія, як ён, майстры на хаду ўлоўліваюць ідэі і задумкі канструктараў, а нярэдка і дапаўняюць, удасканальваюць іх сваімі прапановамі. Гордасцю не толькі цэха, але і завода з'яўляюцца слесары Уладзімір Ерафееў, Аляксандр Пятухоў, інструментальшчык Леанід Абражэвіч — усіх і не пералічыць! Яны — наш залаты фонд.

«Фанаты» ёсць у кожнай справе, у творчай — найперш. Гэтыя рысы ў першую чаргу, як мне падалося, уласцівы інструментальшчыкам. Па тым з якой гордасцю свяціўся твар начальніка інструментальнай вытворчасці Валянціна Карбановіча, калі ён знаёміў нас з цэхамі і ўчасткамі, як хораша і з захапленнем апавядаў аб творчых здабытках калектыву, можна было зразумець: вось таксама чалавек, улюбёны ў сваю справу. Без найноўшай аснасткі не стварыць доследнага ўзору сучаснага кампрэсара, які выпускае для МХЗ Баранавіцкі станкабудаўнічы завод. Распрацавала новы агрэгат японская фірма. Яна была гатова пастаўляць і сваю аснастку, але за вялікія грошы, прычым у цвёрдай валюце. Аднак інструментальшчыкі пасядзелі, паламалі галаву і самі зрабілі аснастку не горшую за японскую, але ў некалькі разоў таннейшую. І так ва ўсім. У распараджэнні інструментальшчыкаў найноўшыя станкі з лічбавым праграмным кіраваннем. Ці не таму пры апрацоўцы асобных дэталяў дасягаецца найвышэйшы клас чысціні — чатырнаццаты.



Пабывалі мы ў гэты дзень і ў цэху № 1, адкуль халадзільнікі пачынаюць свой шлях на зборачны канвеер. Намеснік начальніка цэха Юрый Яфімаў паказаў сучасную аўтаматычную лінію па вырабу дзверцаў італьянскай фірмы «Скарыёні», якая замяніла французскую лінію, што адпрацавала тут больш як 25 гадоў. Цікава было назіраць за тым, як штампуюцца панелі шафы, як усё гэта затым ідзе на афарбоўку.

...Бясконцым патокам рухаюцца па канвеерах халадзільнікі. Такіх канвеераў у зборачным цэху пяць. Вырабы павольна абрастаюць усё новымі і новымі дэталямі і вузламі, пакуль не сходзяць з канвеера. Кожныя 20 секунд — новы халадзільнік. Далейшы іх шлях — на выпрабавальныя стэнды, дзе яны правяраюцца на эканамічнасць, герметычнасць, электрычную бяспеку...

І, нарэшце, завяршальны этап — упакоўка. На спецыяльных аўтаматычных лініях іх запакоўваюць у кардонныя скрынкі, абвязваюць і адпраўляюць на склад гатовай прадукцыі. Адтуль — па краінах і кантынентах, да спажыўца.

Усё, што сёння робіцца на заводзе, падпарадкавана адной мэце: зрабіць самы лепшы, самы даступны і зручны халадзільнік, разлічаны на любы густ. Да таго ж ён павінен быць па кішэні пакупніку — айчыннаму і замежнаму.





**НА ЗДЫМКАХ: інжынеры-канструктары Анатоль Саломка і Уладзімір Савіцкі. Іх асноўным рабочым інструментам стаў камп'ютэр;на ўчастку зборкі дзверцаў; інжынер-выпрабавальнік Мікалай Цвірко;старшыня прафсаюзнага камітэта Валерый Нікалаенка (у цэнтры) гутарыць са шліфавальшчыкам Міхаілам Мейшутовічам і начальнікам участка Віталем Картавіцкім; на канвееры — мінскія халадзільнікі; намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях і знешніх эканамічных сувязях Васіль Досаў гутарыць з прадстаўніком амерыканскай фірмы «Джэнерал электрык» Пятром Шопам; брыгадзір слесараў доследна-эксперыментальнага цэха Аркадзь Махрачоў.**

**Матэрыялы старонкі падрыхтавалі Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**

